# Беларускі Піонэр




Дзеці удэхэйцаў (да нарысу „Лясныя Людзі“)

-Чырвоная зьмена-

# ЖЫЦЬЦЁ ЗАМЕЖНЫХ ПРОЛЕТАРСКІХ ДЗЯЦЕЙ

## ЭММІ РОДЭРЫГ — 14-ГАДОВАЯ ЗАБАСТОЎШЧЫЦА.

Нядаўна на Фол-Рыверы (Амэрыка) адбыўся мітынг бастуючых. На мітынгу маленькая дзяўчынка, з жвавымі чорнымі вачыма, кучаравымі валасамі і кірпатым носам, папрасіла ў старшыні слова.

— Але што ты зможаш сказаць рабочым?—запытаў старшыня.

— Я ведаю, што скажу ім. Я сама працую.

Калі Эммі Родэрыг, 14-гадовая работніца і забастоўшчыца амэрыканскай паркалёвай кампаніі пачала гаварыць, яе словы закранулі сэрцы прысутных рабочых. З гэтага часу яна стала адважным кіраўніком у Фол-Рыверы ў барацьбе дарослых рабочых і дзяцей за свае правы.

## НЯВОЛЬНІК МАШЫНЫ.

Бацька яе працаваў на заводзе, сёстры—таксама. Калі Эммі споўнілася 14 год, яна, як і іншыя дзеці рабочых тэкстыльных цэнтраў Амэрыкі, пашла на работу. Яна прадавала фабрыцы сваё маладое жыцьцё за некалькі рублёў у месяц.

Аднойчы Эммі даведалася, што яе бацька бастуе. Эммі таксама не пашла на працу. У наступную раніцу ўсе машыны стаялі без работы...

Эммі прышла ў Нью-Ёрк разам з сваімі таварышамі—дэлегатамі бастуючых рабочых Фоль-Рывера і Нью-Бэдфорду, каб аб'яднацца з тэкстыльшчыкамі Нью-Джэрсея, Пэнсільваніі і Нью-Ёрку ў новы Саюз Тэкстыльшчыкаў. Яна ўвайшла ў залю сходу сьмела і адважна. Вакол шыі ў яе быў павязаны чырвоны піонэрскі гальштук. 14-гадовая работніца адчувала сябе як дома ў залі, дзе сабраліся рабочыя.

Эммі гаварыла на мове, блізкай кожнаму рабочаму, проста, шчыра. Сход прыняў Эмму, як сваё дзіця, яна выказвала думкі і жаданьні ўсіх дзяцей тэкстыльшчыкаў.

## ХАЧУ СТАЦЬ ОРГАНІЗАТАРАМ.

Пасьля-ж, у сяброўскай гутарцы, яна з гонарам прызналася, што самым вялікім яе жаданьнем зьяўляецца, калі яна вырасьце—стаць організатарам новага Саюзу Тэкстыльшчыкаў. Цяпер-жа яна будзе організоўваць дзяцей для барацьбы за інтарэсы рабочых.

„Настаўнікі б'юць піонэраў. Калі хто-небудзь заяўляе аб тым, што ён піонэр,—настаўнік б'е яго. Я кажу дзецям, каб яны адплочвалі ім гэтак-жа сама.

„Настаўніца гаворыць, што сьцяг камітэту тэкстыльшчыкаў стаў чырвоным і бальшавіцкім. Я адказала ёй, што амэрыканскі сьцяг таксама стане чырвоным і бальшавіцкім! Настаўніца на гэта нічога не змагла адказаць. Я сказала ёй, што бальшавік—гэта чалавек, які змагаецца за справу рабочае клясы".



Бэрнард Каплач,
амэрыканскі піонэр, выключаны з 61-й Нью-Ёркскай школы за распаўсюджваньне рэволюцыйных адозваў.

## ХАЧУ, КАБ КАПІТАЛІСТЫЯ ПЕРАСТАЛІ КІРАВАЦЬ РАБОЧЫМІ.

„Хіба ты не баішся паліцыі"—запыталі Эмму.

„Ну, не баюся, чаго-ж мне баяцца? Калі я праходжу міма начальніка Фінея, дык я сьпяваю песьню „Стары начальнік Фіней", ці якую-небудзь рэволюцыйную песьню".

„Што ты думаеш рабіць, калі вернешся назад у Фол-Рывер?"

„Папершае, я пачну организоўваць дзяцей і пастараюся наладзіць забастоўку ў школе, каб дабіцца права быць піонэрамі. Я зьяўляюся членам камітэту тэкстыльных заводаў, а потым-жа я хачу стаць організатарам новага Саюзу Тэкстыльшчыкаў".

Пасьля яна дадала: „я ўсяго толькі хачу, каб капіталістыя перасталі кіраваць рабочымі".

## АБ РАБОЦЕ ФІНЛЯНДЗКІХ ПІОНЭРАЎ.

Мы атрымалі весткі з Фінляндыі аб рабоце піонэрскага саюзу за апошнія два гады.

У 1926 годзе работа піонэраў праводзілася кепска, сумна. Па ўсёй Фінляндыі налічваўся толькі 21 піонэрскі атрад.

Тады піонэрская організацыя пачала ўжываць лепшыя, цікавейшыя формы работы. Да канца 1927 году вырасла 50 піонэрскіх атрадаў. У 1928 годзе было організавана яшчэ пяць новых атрадаў. Лік піонэраў павялічыўся да 1.000 з лішнім чалавек. Акрамя таго, піонэрская організацыя пачала ахопліваць сваёй работай вялікую колькасьць дзяцей.

Мясцовыя піонэрскія організацыі вельмі добра трымаюць сувязь з Цэнтральным Бюро, паведамляюць аб сваёй рабоце і атрымліваюць адтуль паказаньні для сябе.

Фінляндзкія піонэры вельмі цікавяцца інтэрнацыянальнай перапіскай, але скардзяцца, што піонэры іншых краін адказваюць ім неахвотна і рэдка. Улетку 1928 г. фінляндзкіх піонэраў запрасілі ў лягер імя Варашылава ў Бэрлін, але запрашэньне прышло надта позна і таму паехаць не ўдалося.

Міжнародны дзіцячы тыдзень праводзіўся ўвосень і быў зьвязан з сьвяткаваньнем дзесяцігодзьдзя піонэрскага саюзу ў Фінляндыі.

Шмат увагі аддавалася падрыхтоўцы павадыроў. Быў організаваны цэлы шэраг курсаў. У Гэльсінфорсе былі нават організаваны месячныя курсы павадыроў.

*(Працяг гл. на 3 ст. вокладкі).*

## ЗЬМЕСТ.



**Вокладка:**

Год выданьня 5-ты.

Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў!

УМОВЫ ПАДПІСКІ:
На 1 м-ц — р. 20 к.
„ 3 м-цы — р. 60 к.
„ 6 м-цаў 1 р. 20 к.

БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ, ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР

№ 6 — САКАВІК — 1929 г.

# МАЛЕНЬКАЯ КАЗЕТА*)

*Апавяданьне В. ГЮГО*

*Малюнкі ВАЛО*

Гэта было ў Францыі шмат гадоў таму назад у маленькім гарадку Монтфермейлэ. У тым годзе зіма была марозная і сьнежная. На заежджым двары ў Цекардзьве сабралася шмат народу. У вялікім пакоі людзі вячэралі разам з гаспадаром. Гэта быў маленькі, сухашчавы і худы чалавек, з тварам падобным да лісінай морды. Ён быў вельмі зайздросны на багацьце, і стараўся выкруціць рознымі спосабамі з праяжджаючых як мага больш грошай. Жонка яго была высокая рыжая кабеціна, з вельмі злым тварам. Гэтым гаспадаром для догляду і гадаваньня была аддадзена маленькая дзяўчынка, Казета. Гаспадыня вельмі кепска абыходзілася з Казетай. Яна прымушала яе рабіць усялякую вельмі цяжкую работу і біла яе.

З ранку да вечара дзяўчынка бегала па ўсходках гасьцініцы: мыла, чысьціла, падмятала, паднімала цяжкія рэчы і наогул рабіла самую нялёгкую работу.

Адным з абавязкаў яе было насіць ваду з лясной крыніцы, калі не хапала вады, якую прывозіў вадавоз.

У гэты халодны зімовы вечар маленькая Казета сядзела на сваім звычайным месцы, на перакладзіне вялікага кухоннага стала ля камінку; яна была адзета ў лахмоцьці і вялікія драўляныя башмакі; пры сьвятле каміну яна рабіла панчохі для дзяцей гаспадароў. Тут-жа пад табарэткамі забаўляўся коцік.

У памяшканьне ўвайшло чатыры новых чалавекі.

Казета самотна ўздыхнула. Хоць ёй было ўсяго восем гадоў, але яна ўжо так шмат бачыла гора, што ўздыхала зусім як вялікая.

Казета думала пра тое, што ўжо ноч, цёмная ноч, і што ў бочцы няма больш вады, а для гэтых сьвежых людзей трэба наліць вадой збанкі ў іх пакоях.

І дзяўчынка задрыжала ад страху, калі гаспадыня падняла накрыўку аднае з каструль, потым узяла шклянку і борзда падышла да бочкі. Яна павярнула кран. Дзяўчынка сачыла за кожным яе рухам. Тоненькі струмочак вады пацёк з бочкі і толькі да палавіны запоўніў шклянку.

— Вось табе на! Вады больш няма!—сказала яна. Дзяўчынка зусім амаль перастала дыхаць.— Ну,—гаварыла гаспадыня, разглядаючы напалавіну поўную шклянку, — пакуль што гэтага хопіць.

Казета зноў узялася за работу, але сэрца яе яшчэ доўга моцна білася. Яна лічыла хвіліны, ёй вельмі хацелася, каб настала раніца.

Раптам адзін з прыежджых гандляроў, які спыніўся ў гасьцініцы, увайшоў у хату і сурова сказаў.

— Майго каня не напаілі!

— Ня можа быць,—пярэчыла гаспадыня.

— Кажу вам, што не,—паўтарыў гандляр.

— Калі конь ня піў вады, дык яго трэба напаіць,—сказала гаспадыня.

Потым, аглянуўшыся наўкола, дадала:

— Дзе-ж гэта дзеўчанё?

Яна нагнулася і знайшла Казету, якая, уся сагнуўшыся, старалася схавацца ў другім канцы стала, амаль пад нагамі людзей, што сядзелі за сталом.

— Вылазь, нягодніца!—крыкнула гаспадыня. Казета вышла з свае схованкі.

— Пайдзі напой каня!

— Вады больш няма,—ціха сказала Казета.

Гаспадыня шырока адчыніла дзьверы на вуліцу:

— Тады ідзі па ваду!

Казета апусьціла галаву і пашла за парожным вядром.

Гэта вядро выглядала большым за самую дзяўчынку.

Некаторы час Казета стаяла нярухома перад шырока адчыненымі дзьвярыма з вядром у руках. Здавалася, яна чакала, каб хоць хто-небудзь прышоў к ёй на дапамогу.

— Ідзі-ж,—крыкнула гаспадыня. Казета вышла. Дзьверы ўсьлед зачыніліся.

Казета пашла па галоўнай вуліцы, уздоўж якой цягнуліся яркім сьветам абсыпаныя крамкі. Амаль ля самага ўваходу ў гасьцініцу была крама з лялькамі. У гэтай краме ўсё блішчала ад запаленых сьвечак і ўпрыгожаных елак.

У акне, на самым віду, стаяла вялізная лялька, адзетая ў ружо-

*) Урывак з роману „Отверженные“.

вую сукенку, з залатым вяночкам на галаве, з сапраўднымі валасамі і шклянымі вочкамі. Увесь дзень стаяла яна на выстаўцы і прываблівала да сябе ўсіх праходзячых дзяцей.

Задуменная і скрыўджаная йшла Казета з сваім вялізным вядром у руках і ўсё-ж такі не магла стрымацца, каб не паглядзець на гэту цудоўную ляльку, на „даму“, як яна яе звала. Бедная дзяўчынка спынілася зусім зьдзіўленая; яна яшчэ ні разу ня бачыла цудоўную ляльку гэтак блізка. Казета не магла адарваць вачэй ад яе і зусім забылася пра ваду.

Раптам грубы голас гаспадыні абудзіў яе: „Ты яшчэ не пашла, гультайка?“ Вот, пачакай яшчэ, я табе! Што ты там утаропілася! Заглядзелася? Ідзі, шчаня ты!“

Пачуўшы гэты злы голас, Казета кінулася з усіх ног да лясной крыніцы. Яна ўжо больш не заглянула ні на адну краму. Датуль, пакуль яна йшла па галоўнай вуліцы, яшчэ было сьветла ад вокан дамоў і крам, але з апошнім домам зьнікла і апошняе сьвятло. Дзяўчынка апынулася ў цемені. На вуліцах ня было ні душы. Але вось Казета вышла за горад. Перад ёю была пустая чорная прастора. Гэта было цёмнае поле і лес. Ёй стала страшна. Яна парашыла вярнуцца назад, але ўспомніла аб гаспадыні і не асьмелілася гэтага зрабіць. Ёй хацелася плакаць. Яна ні аб чым больш ня думала і нічога больш ня бачыла. Яна ня ўзіралася па бакох і борзда йшла. Вось яна ўжо дайшла да крыніцы, схапілася рукой за галінку маладога дуба, што рос тут, і боўтнула вядром у ваду. З вялікім напружаньнем яна выцягнула амаль поўнае вядро і паставіла яго на зямлю.

Набраўшы вады, Казета адчула, што вельмі стамілася. Яна кінулася на траву і заплюшчыла вочы. Дзьмуў халодны вецер. У лесе было вельмі цёмна. Яна ўстала, ледзь падняла цяжкае вядро і пашла, нізка схіліўшы галаву, зусім як бабуля. Але неўзабаве, ступіўшы некалькі крокаў, яна спынілася: вядро было вельмі цяжкім для яе.

Яна думала пра тое, што ёй яшчэ доўга прыдзецца йсьці, і што гаспадыня наб'е яе за тое, што яна доўга не варочаецца.

Раптам яна адчула, што вядро стала зусім лёгкім. Нечая рука схапіла вядро. Казета ўзьняла галаву. Вялікая чорная постаць ішла ў цемені поруч з ёю. Гэта

— Хто-ж гэта пасылае цябе ў такую цемень па ваду ў лес?

— Гаспадыня.

— Што-ж гаспадыня сама робіць?



*Яна ледзь падняла цяжкое вядро і пашла.*

быў чалавек, які ўвесь час ішоў за ёю і якога яна не заўважала.

Моўчкі ўзяў ён у Казеты яе цяжкое вядро. Казета зусім не напалохалася.

Незнаёмы чалавек загаварыў спакойным ціхім голасам.

— Дзяўчынка, гэта вядро вельмі цяжка табе несьці.—Колькі табе год, крошка?

— Восем!

— А ты здалёку йдзеш?

— Ад крыніцы з лесу.

— Далёка табе яшчэ йсьці?

— Хвілін пятнаццаць.

Незнаёмец спыніўся, паставіў вядро на зямлю, нахіліўся, палажыў абедзьве рукі на плечы дзяўчынкі і стараўся разглядзець яе ў цемені.

— Як цябе завуць?

— Казета.

— Дзе ты жывеш, крошка?

— У горадзе.

— Гэта туды мы і йдзем?

— Так.

Яны трохі памаўчалі, потым незнаёмец пачаў зноў пытацца.

— У яе гасьцініца.

— Гасьцініца?—сказаў незнаёмец,—добра, я хачу спыніцца ў яе на сёнешнюю ноч. Правядзі мяне туды.

— Мы туды і йдзем,—адказала дзяўчынка.

Незнаёмец ішоў даволі борзда. Казета лёгка сьпяшалася за ім. Яна ўжо не адчувала зморанасьці.

Прайшло некалькі хвілін. Незнаёмец зноў загаварыў.

— Хіба ў тваёй гаспадыні няма работніц?

— Не.

— Ты, значыцца, у іх адна?

— Так, але апрача мяне ёсьць яшчэ дзьве маленькія дзяўчынкі.

— Якія маленькія дзяўчынкі?

— Поніна і Зельма.

— Хто гэта Поніна і Зельма?

— Гэта паненкі, дочкі гаспадыні.

— Што-ж яны робяць?

— О,—сказала дзяўчынка,—у іх ёсьць прыгожыя лялькі і розныя цацкі. Яны забаўляюцца.

— Увесь дзень?

— Так.

— А ты?

— Я? Я працую.

— Увесь дзень?

Дзяўчынка ўзьняла на незнаёмца свае вялікія вочы, у якіх блішчалі сьлёзы, і ціха сказала.

— Так.

Потым, крыху памаўчаўшы, яна дадала:

— Іншы раз, калі я канчаю работу, і калі дазваляюць, я таксама гуляю.

— Як-жа ты гуляеш?

— Як умею. Але ў мяне мала ляляк. Поніна і Зельма ня хочуць, каб я дакраналася да іх цацак. У мяне ёсьць маленькая валавяная шабелька, вось такая.

Дзяўчынка паказала свой мезены палец.

— Шабля ня гострая?—запытаўся незнаёмец.—Яна-ж, напэўна, нічога ня рэжа?

— Не, рэжа. Ёю можна рэзаць салдат.

Яны падышлі да гораду. Казета вяла незнаёмца па вуліцы. Калі яны падышлі да гасьцініцы, Казета са страхам сказала:

— Аддайце мне цяпер вядро.

— Чаму?

— Калі гаспадыня ўбачыць, што вы нясіце вядро для мяне, яна мяне будзе біць.

Незнаёмец аддаў вядро. Праз хвіліну яны ўжо былі ля дзьвярэй гасьцініцы.

Казета не магла стрымацца, каб не ўзглянуць на вялікую лялькy ў акне процілеглай крамы цацак, потым пастукалася. Дзьверы адчыніліся. У дзьвярох, з сьвечкаю ў руцэ, стаяла гаспадыня.

— А гэта ты, бадзяга! Як доўга ты хадзіла! Ты, мусіць, недзе гуляла, гультайка?

— Не, не,—адказала дрыжачым голасам Казета. Потым, паказаўшы на незнаёмца, сказала:—Вось гэты дзядуля хоча ў нас пераначаваць.

На твары гаспадыні адразу засьвяцілася мілая ўсьмешка. Але, агледзеўшы незнаёмага чалавека і заўважыўшы, што ён кепска адзеты, яна суха сказала:

— Уваходзьце.

Незнаёмец палажыў сваю торбачку і палку на ўслон і сеў за стол. Казета заняла сваё звычайнае месца на перакладзіне стала і пачала рабіць панчохі.

Незнаёмец глядзеў на Казету. Гэта была худзенькая, бледная, няпрыгожая дзяўчынка. Ёй было ўжо восем год, але на выгляд ёй нельга было даць і шасьці. Ёй заўжды было холадна і дзеля гэтага ў яе была прывычка курчыцца і цесна прыціскаць калені адно к другому. Уся яе адзежа складалася з лахманоў. А праз дзіркі гэтых лахманоў відаць былі чорныя і сінія плямы на целе,—сьляды гаспадыніных бізуноў. Яе голыя ногі ў драўляных башмаках былі худыя і чырвоныя. Вялікія вочы, абведзеныя цёмнымі кругамі, здаваліся апухлымі,—гэта таму, што яна так шмат плакала.

Незнаёмец не адводзіў вачэй з Казеты.

У гэты час адчыніліся дзьверы і ў пакой увайшлі Поніна і Зельма.

Гэта былі сапраўды дзьве прыгожыя, маленькія дзяўчынкі. У аднае былі бліскучыя каштанавыя валасы, у другой—даўгія чорныя косы. Абедзьве яны былі вясёленькія, чысьценькія, тоўсьценькія і здаровыя дзяўчаткі. Яны прынесьлі з сабою ляльку, і, весела шчабечучы, забаўляліся ёю.

Казета сяды-тады адрывалася ад свае работы і з сумнымі вачыма глядзела на іх.

Лялька ў Поніны і Зельмы была старая, уся паліняляя і патрэпаная, але ўсё-ж яна здавалася Казеце вельмі прыгожай, бо ў Казеты за ўсё яе жыцьцё ніколі ня было лялькі. Раптам гаспадыня, якая ўвесь час хадзіла па хаце, заўважыла, што Казета, заместа таго, каб працаваць, забаўляецца тым, што глядзіць на яе маленькіх дачок.

— Вось я цебе! — закрычала яна,—гэта ты так робіш! Я цябе бізуном прымушу рабіць.

Незнаёмец, не ўстаючы з табарэткі, загаварыў да гаспадыні:

— Ягомасьць,—сказаў ён, ціха ўсьміхаючыся,—дазвольце ёй пагуляць.

Гаспадыня злосным голасам адмовіла:—Яна-ж есьць. Я не магу дарэмна карміць яе, яна павінна рабіць.

— Што-ж яна робіць?

— Панчохі маім маленькім дочкам.

Незнаёмец паглядзеў на пасінелыя ад холаду ногі Казеты і сказаў:

— Калі яна скончыць гэтыя панчохі?

— Гэтай гультайцы хопіць работы напэўна на тры ці на чатыры дні.

— А колькі будзе каштаваць гэта пара панчох, калі яна будзе гатова?

Гаспадыня па-воўчы на яго паглядзела.

— Ня менш трыццаці су,



*Гаспадар, яго жонка і дочкі—усе акамянелі ад зьдзіўленьня.*

— Ці не прадасьце вы мне гэту пару панчох за адзін франк?—запытаўся незнаёмец.

Гаспадар, які прыслухоўваўся да гэтай размовы, сказаў:

— Ясна, калі вам прышла ў галаву такая фантазія, мы, так і быць, прадамо вам гэтыя панчохі за адзін франк. Мы ніколі ні ў чым не адмаўлялі гасьцём.

— Я купляю гэту пару панчох, — адказаў незнаёмец і, выняўшы з кішэні грошы, палажыў іх на стол,—вось грошы!

Потым ён загаварыў да Казеты.

— Цяпер твая работа належыць мне. Пакінь яе і гуляй, мая дзяўчынка.

Гаспадар палажыў грошы ў кішэнь свае камізэлькі.

Гаспадыня кусала сабе губы ад злосьці, і на твары ў яе сьвіцілася вялікая лютасьць і зьненавідзь.

Казета ў гэты час дрыжала ад страху. Нарэшце, яна адважылася запытацца ў гаспадыні.

— Гэта праўда? Я магу гуляць?

— Гуляй,—злосна сказала яна.

— Дзякую,—адказала Казета.

І ў той час, калі губы яе выказвалі ўдзячнасьць гаспадыні, усё яе нутро гарэла ўдзячнасьцю незнаёмцу.

Казета пакінула сваю работу, узяла з скрынкі, якая стаяла ззаду ад яе, некалькі старыхануч, сваю валавяную шаблю і доўга забаўлялася.

Раптам Казета перастала махаць сваёй шабелькай. Яна адвярнулася і ўгледзела доле, ля самага стала, ляльку...

Тады яна кінула шаблю і павольна акінула вачыма ўсю хату. Гаспадыня гутарыла з сваім мужыком, Поніна і Зельма гулялі з катом, чужыя людзі елі і сьпявалі песьні. Ніхто на яе не прыглядаўся. Яна ня траціла ніводнай хвіліны, выпаўзла рачком з пад стала і, яшчэ раз пераканаўшыся ў тым, што на яе ніхто не глядзіць, борзьдзенька падкралася к ляльцы і схапіла яе. Праз момант яна ўжо была на сваім месцы і сядзела спакойна, павярнуўшыся так, каб схаваць ад усіх ляльку, якую яна трымала ў руках. Ніхто нічога не заўважыў, апрача незнаёмца, які павольна еў сваю мізэрную вячэру.

Казета забаўлялася з сапраўднай лялькай. Але хоць Казета і старалася зрабіць так, каб ніхто ня бачыў ляльку, яна ўсё-ж не заўважыла, як адна нага лялькі, ружовая і бліскучая, вытыркала з-пад яе рук, і агонь ад камінка ярка асьвятляў яе. Гэта ружовая і бліскучая нага лялькі была заўважана Зельмай, і яна сказала сястры:

— Паглядзі, Поніна!

Абедзьве дзяўчынкі адразу перасталі забаўляцца ад такога зьдзіўленьня: Казета адважылася ўзяць ляльку!

Поніна ўстала і, не выпускаючы з рук коціка, падышла да маткі і пацягнула яе за спадніцу.

— Мама, — сказала яна, — паглядзі!

І яна паказала на Казету.

Казета-ж так захапілася лялькай, што нічога ня бачыла і ня чула. Гаспадыня закрычала гнеўна:

— Казета!

Казета задрыжала так, нібы зямля скаланулася пад ёю. Яна адвярнулася.

— Казета! — паўтарыла гаспадыня.

Казета ўзяла і ціха з адчаем палажыла ляльку на месца. Потым яна заплакала.

Раней нішто не даводзіла яе да сьлёз,—ні цёмны лес, ні цяжкое вядро, ні выгляд бізуна ў руках гаспадыні. Цяпер-жа яна пачала горка плакаць, усхліпваючы і ўзрыдваючы.

У гэты час незнаёмец устаў.

— Што здарылася?—запытаўся ён у гаспадыні.

— Ці-ж вы ня бачыце? Гэта нягодніца адважылася дакрануцца да лялькі маіх дачок сваімі бруднымі рукамі.

Казета заплакала мацней.

— Змоўкнеш ты ці не?!—крыкнула гаспадыня.

Незнаёмец моўчкі пашоў да дзьвярэй, адчыніў іх і вышаў на вуліцу.

Як толькі ён вышаў, гаспадыня моцна выцяла Казету пад сталом нагою. Казета моцна заенчыла.

Хутка дзьверы адчыніліся і зноў увайшоў незнаёмец. Ён трымаў у руках тую самую цудоўную ляльку, на якую ўвесь дзень заглядваліся ўсе дзеці.

Ён палажыў яе перад Казетай і сказаў:

— Вось, гэта табе.

Казета падняла вочы; яна бачыла незнаёмца, які йшоў да яе з лялькай, і глядзела на яго так, як глядзела-б на сонца, калі-б яно набліжалася да яе; яна чула, як ён сказаў:—Гэта табе; яна паглядзела на яго, паглядзела на ляльку, потым павольна адсунулася назад і залезла ў самы дальні куток пад сталом. Яна больш ня плакала і ня крычала. Здавалася, што яна зусім перастала дыхаць.

Гаспадар, яго жонка і дочкі іх —усе акамянелі ад зьдзіўленьня. Нават усе прысутныя людзі замоўклі.

У хаце наступіла поўная цішыня.

— Ну, Казета,—сказала гаспадыня прытворным лісьлівым голасам,—чаму ты не бярэш сваёй лялькі?

Казета адважылася вылезьці з свайго кутка.

— Мая маленькая Казета, — сказаў тады гаспадар таксама з прытворным ласкавым выглядам, — госьць падараваў табе ляльку. Вазьмі яе. Яна твая.

Казета глядзела на цудоўную ляльку з нейкім страхам.

Твар яе ўсё-ж быў мокры ад сьлёз, але ў вачох ужо блішчала радасьць, як сонейка пры ўсходзе.

Яна нясьмела падышла да лялькі і баязьліва запытала ў гаспадыні:

— Мне можна ўзяць яе?

— Канечна,—сказала гаспадыня,—яна твая. Яе-ж падаравалі табе.

— Праўда, гэта праўда?

— Гэта „дама“ мая?—запыталася Казета ў незнаёмца. Ён моўчкі кіўнуў галавою і ўлажыў руку „дамы“ ў маленькую ручку Казеты.

— Я назаву яе Кацярынай,— сказала яна. Казета пасадзіла Кацярыну на табарэтку, сама села перад ёй на падлозе і сядзела моўчкі і нярухома, гледзячы на сваю „даму“.

— Забаўляйся-ж, Казета,—сказаў незнаёмец.



*Першая пушка.*

— О, я забаўляюся,—адказала дзяўчынка.

Неўзабаве гаспадыня паслала спаць сваіх дачок. Пашла спаць і Казета разам з сваёй Кацярынай.

Мінула некалькі гадзін, а незнаёмец усё яшчэ сядзеў у глыбокім задуменьні.

Нарэшце ён устаў, узяў сьвечку і накіраваўся ў адведзены для яго пакой. Праходзячы калідорам, ён пачуў нейкі слабы гук; здавалася, што недзе дыша дзіцянё. Ён пашоў проста на гэты гук і дайшоў да нейкага куточка пад усходкамі. Тут, сярод кучы ўсялякага старога ламачча, старых кашоў і чарапоў, у пылу і павуціньні была пасьцель, калі толькі можна назваць пасьцельлю кучку пацёртай саломы і парваную коўдру. Нічога больш ня было. Усё гэта было кінута на каменную падлогу. У гэтай пасьцелі спала Казета.

Незнаёмец падышоў, пачаў глядзець на яе.

Казета моцна спала, зусім адзетая. Зімою яна ніколі не разьдзявалася, каб ня так моцна зьмерзнуць.



Яна моцна прыціснула да сябе сваю ляльку. Час ад часу Казета глыбока ўздыхала праз сон і яшчэ мацней прыціскала яе да сябе.

* * *

Раніцою жыхары гораду, якія толькі што адчынялі ваконіцы і дзьверы, бачылі, як па вуліцы ішоў бедна адзеты дзед, вядучы за руку маленькую дзяўчынку з вялікай ружовай лялькай у руках.

Гэта былі незнаёмец і Казета.

Казета ішла ад гаспадыні назаўсёды. З кім? Яна ня ведала. Куды? Яна таксама ня ведала. Яна ведала толькі адно, што яна назаўсёды пакідала гасьцініцу Тэкардзье.

# ШПАКІ

* * *

*Ня сьцелюцца палотнамі*
*Сумётныя сьнягі,*
*А сонца пазалотаю*
*Абвеяла лугі.*
*Мароз пакінуў муліцца,*
*На шыбах кветкі віць.*
*Дзяцей заве на вуліцу*
*Прыгожы красавік.*
*І сонца па-над хатамі*
*Ня кідае ірдзець.*
*Ў садку шпакі крылатыя*
*Сьпяваюць кожны дзень.*
*І раніцай зацішнаю*
*Паслухаць любіць іх*
*Маленькі Юзік.*
*Вышаўшы,*
*Ля плоту ён стаіць,*
*Стаіць і углядаецца...*
*Затоіць нават дых.*
*А сьпеў пераліваецца*
*На розныя лады.*

* * *

*А дні бягуць, мінаюцца,*
*Вясну-красуню ткуць.*
*О, колькі суму—раніцай*
*Шпакі больш не пяюць!*
*І Юзік моцна крыўдзіцца,*
*Тэй крыўды ня стрымаць...*
*„Нічым я не пакрыўдзіў іх,—*
*А іх чамусь няма?!“*

* * *

*Праз дзень выпадкам стрэліся*
*Сябры—Язэп і Клім.*
*... На сонцы дзіўным грэліся,*
*Вясёлымі былі...*
*Аж раптам шпак у садзе там*
*Прыгожа засьпяваў.*
*— Ну, і хатку-ж я уладзіў ім!*
*Бадзёра Клім сказаў.*
*А Юзік сумам поўніцца:*
*„Ад нас яны ўцяклі“...*
*„Трэ' будаваць шпакоўніцы*
*Раз хочаш, каб былі.*
*Яны сьпяваюць гожа так,*
*Бароняць летам сад.*
*Ты-ж ім таксама зможаш*
*Зрабіць хацінку сам“.*

* * *

*І Юзік шчасьцям поўніцца,*
*Іграе моцна кроў.*
*Будуе ён шпакоўніцу—*
*Хацінку для шпакоў.*
*І толькі прыдзе з школы ён*
*(У першай клясе быў),*
*Прымаецца з вясёласьцю*
*Шпакоўніцу рабіць.*

ШАКА.



# Як вырасьціць капусную расаду

### Пабудова расадніка, пасеў і догляд за расадай.

Для пабудовы цёплага расадніка і для вырошчваньня раньняе капуснае расады не патрэбна ніякіх лішніх сродкаў, а толькі невялікі час працы. З якіх-небудзь кепскіх дошчак трэба зьбіць на чатыры вуглы скрыню, толькі бяз дна і паверхні, якая ў вышыню была-б ня болей аршына, упоперак—паўтара, а ў даўжыню—па патрэбе; калі расада гадуецца толькі для сябе, для невялікай гаспадаркі, дык ня болей, як два аршыны; ня шырэй паўтара аршына робіцца расаднік для таго, каб лепей даглядаць за расадай. Трэба, каб адзін бок скрыні быў пахілым у сонечны бок. Гэткую скрыню трэба паставіць на зямлю, на высокім сухім месцы, там, дзе, найбольш пячэ сонца. З усіх чатырох бакоў на паверхні яе трэба аблажыць гноем, таксама накласьці гною і ў сярэдзіну. Гной для гэтае патрэбы павінен быць ужо гарачы, а для гэтага яго вазоў з 5 трэба тыдні за два перад пасевам расады скідаць з хлява дзе-небудзь у вольным месцы ў кучу. Счакаўшы дзён 5, гной трэба паліць вадой, каб ён быў больш вільготным,—у гэткую кучу выліць вядзёр 20 вады. Гной ад вільгаці загараецца. Ён і без вады будзе гарэць, але мясьцінамі можа не хапаць вільгаці, і тады могуць утварыцца пустыя месцы, ад чаго завядзецца плесьня і гной стане трухнець.

Гэткім гарачым гноем і трэба аблажыць скрынку як з бакоў, так накідаць і ў сярэдзіну. У сярэдзіну яго накласьці пластам—вяршкоў на 8, але прытоптваць ня трэба. Паверх гэткага пласта ў сярэдзіну насыпаць слой добрай, ураджайнай, вяршкоў у 5, зямлі, якую і разраўняць. Пасьля такое працы скрыню трэба шчыльна закрыць матай, якую зрабіць раней.

Паждаўшы дні два, трэба сеяць насеньне расады і заскародзіць яго граблямі на глыбіню каля поўвяршка. Адчыняць гэткі расаднік толькі ў самы гарачы час дня, а на ноч, ці калі холадна, абавязкова трэба зачыняць.

Калі маюцца невялікія сродкі, дык лепей зрабіць для закрываньня расадніка шкляную раму, якую класьці на расаднік схілам у сонечны бок. Пад рамай расьліна можа расьці ва ўсякую пагоду. Удзень патрэбна раму адчыняць, каб упусьціць туды сьвежага паветра, без якога ня могуць жыць расьліны, а на ноч, апрача рамы, закрываць яшчэ і матай, каб часам не прыхваціў мароз і не загубіў расьліны. Раму для накрываньня можна зрабіць з самых маленькіх кавалкаў шкла абы толькі запоўніць яе; кавалачкі шкла склейваць кітам.



*Справа—перасаджаная расада, адшчыкнуты карэньчык, зьлева-ж корань пашоў у зямлю, а не разросься.*

Бывае, што ня ў кожнай гаспадарцы знойдуцца дошкі, каб зрабіць расаднік. Тады можна выгарадзіць расаднік колікамі, а зьверху іх з усіх чатырох бакоў прыбіць жардзінкі, каб калы не разварочваліся і каб лепей было і раўней закрываць расаднік. А то можна толькі па вуглох убіць моцныя колікі і да іх прыбіць таксама жардзінкі, а бакі аблажыць чым папала, абы толькі гной не выпіраў.

Калі расаднік робіцца без шкляной рамы, дык яго трэба рабіць пазьней на адзін тыдзень.

### Догляд за расадай у расадніку.

У расадніку паліваць расаду ня трэба. Калі зямля ў ім высахне, дык яе трэба пакрапіць венікам, памочаным у ваду. Вада не павінна быць халоднай; яе лепш нагрэць на сонцы, бо халодпаю вадою можна папсаваць маладыя лісткі. Другога якога догляду за расадай у такім расадніку ня трэба. Трэба толькі адчыняць ды зачыняць расаднік і абараняць ад шкоды: курэй, гусей, сабак, каб яны не заходзілі туды і не псавалі расьліны. Паложаны на дно скрынкі гарачы гной сам грэе зямлю і вышэй сябе; знадворку, і па бакох гной таксама грэе расаднік, а зьверху расада абараняецца ад холаду рамаю або матаю, так што яна хутка расьце. Нават калі ў гэты час выпадзе сьнег, дык расада яго не баіцца і звычайна бывае зялёнаю і расьце.

Надта сьпяшыць з гэткай працай ня трэба, але і часу не прапускаць. Усходы расады не такія кволыя, як інш. расьліны, напр., гурковыя, і так не баяцца холаду.

На пабудову такога расадніка досыць аднаго працоўнага няпоўнага дня, дый матэрыял для яго можна знайсьці ў кожнай гаспадарцы. Калі зрабіць з дошчак гэткую скрыню і шкляную раму ды шанаваць, дык імі можна карыстацца некалькі гадоў. Гной таксама ў псоту ня пойдзе—і, як выбярэцца расада, яго можна раскідаць па гародзе, а скрыню з рамай трэба захаваць дзе-небудзь пад страху, каб ня гнілі. Выгода і карысьць ад гэтага ўсяго вялікія, ды зразу ў круг працы ўносіцца і match розпастайнасьць.

### Перасадка расады на граду.

Пасеяўшы гэткім чынам капусную расаду, ня трэба думаць, што ўжо ўсё зроблена, у такім расадніку расада доўга расьці ня можа. Яна пасеяна густа. Расьліны, калі пачнуць расьці, будуць цясьніць адны другіх, ад цясноты будуць выцягвацца ўгору, а праз гэта будуць расьці доўгія



*Сучасны бранявы танк*

(параўнайце яго з першаю пушкаю на стар. 4).

сьцяблы. Таксама для каранёў ня хопіць харчы. Карані пойдуць ў глыбіню, могуць дастаць да гарачага гною, і ад гэтага згараць. Можа не хапіць расьлінам і вільгаці, бо зьверху яны не паліваліся, а зьнізу папаўненьня няма— перашкаджае паложаны ў расаднік гной.

Як толькі зямля растане, прасохне і прыгрэецца сонцам, дык трэба падгатаваць граду, у якую і перасадзіць вырашчаную гэткім чынам расаду, на якой вырасьце да гэтага часу па два звычайных лісты.

Пажадана, каб града была з паўднёвага боку, адтуль лепш прыграе сонца. Трэба пад грады адводзіць добрую ўраджайную глебу, у якую ўвосень кладзецца і перакопваецца з зямлёй рыдлёўкай перагніўшы гной. Падгатовіўшы гэтак граду і паскародзіўшы яе граблямі, трэба перасадзіць на яе расаду з расадніка. Пазьніцца з гэтай працай ня трэба, бо, калі расада перарасьце, расьліны кепска прымаюцца. Перад выманьнем расады з расадніка, яе трэба пакрапіць венікам, памочаным у ваду. Змачыць трэба лісьце расады, таксама і зямлю пад ёй, ад чаго расьліны ня так вянуць і лепш вымаюцца з зямлі.

Дзеля пасадкі расады выбіраецца хмурае надвор'е ці вечар перад заходам сонца. Расаду трэба выбіраць у нявысокі кошык і старацца каб прыкарэўшая да каранёў зямля не абтрасалася, бо з зямлёю будуць адрывацца і тоненькія карэньчыкі. Перасаджваючы расаду на граду, трэба меркаваць, каб расьліны вольна разрасталіся ва ўсе бакі і не перашкаджалі адна другой, трэба садзіць адну ад другой на вяршок. Кепска, калі густа, кепска, калі і рэдка, бо ад апошняга ў расьліны дзервянее сьцябло.

Перад высадкаю на граду ў кожнай расьліне трэба адчыкнуць ногцем вялікага пальца адну трэцюю частку кончыка галоўнага стрыжнёвага корню. Кепскія расьліны з кепскімі карэньнямі лепш зусім выкінуць, бо ад іх добрага нічога ня будзе. З адшчыкнутым кончыкам кораня расьліна садзіцца ў зробленую наградзе паказальным пальцам ямку каранямі да першых лісьцяў. Каб расьліны сядзелі ўстойліва і каля каранёў ня было пустога месца, зямля навокал іх абціскаецца пальцамі. Пасьля пасадкі расаду на градзе трэба добра паліць, але ня з лейкі, не з вядра, а венікам, памочаным, таксама ў ня вельмі халодную ваду; венікам таму, што пры паліўцы зямля зьлягаецца. Упрацягу дзён двух расаду трэба ў самы гарачы час дня закрываць матай, прыцяняць. А каб, закрываючы, не папсаваць расьліны, трэба палажыць кругом палкі. Крапіць расаду, калі стаіць гарачая пагода, трэба нанач і на раніцу, пасьля чаго расьліны выглядаюць сьвежымі і бадзёрымі.

Перасадка гэткім чынам расады робіцца вось для чаго. Як гаварылася раней, расада спачатку расла ў расадніку, сядзела густа і расьці далей яна не магла. Цяпер, пасьля перасадкі на галоўным корані, які адцяты на трэцюю частку, вырастае шмат тоненькіх бакавых каранёў, якія ў свой чарод галінядца, пускаюць шмат мочак, накіраваных у бакі каля паверхні глебы ў больш ураджайных пластох яе.

Перасаджаная гэткім чынам расада вырошчвае багатую мочкамі карнявую сыстэму і лепей прымаецца на новым месцы, выглядае бадзёра і весела, маючы нізкую, таўстую качарыжку, шырокі, круглы, цёмна-зялёны ліст. Аб тым, як садзіць капусту, раскажам у чарговым нумары.

С. Каўр.

# НАВІНЫ НАВУКІ І ТЭХНІКІ

*(ПРА СЕЛЬСКУЮ ГАСПАДАРКУ)*

## АБАРОНА ДРЭЎ АД ЗАМАРАЗКАЎ.

Усім вядома, што вясной пасьля цёплага надвор'я раптам наступаюць замаразкі, якія губяць фруктовыя дрэвы ў час іх росквіту.

Адзін амэрыканскі садоўнік знайшоў спосаб барацьбы з замаразкамі. Ён выкопвае вакол кожнага дрэва няглыбокія канавы, набівае іх лёдам, засыпаючы зьверху зямлёй, каб лёд ня хутка раставаў. Уся справа ў тым, што лёд ахаладжвае зямлю і карэньні дрэваў, не дае соку ўздымацца ўгору і так затрымлівае росквіт пупышак датуль, пакуль замаразкі мінуцца.

## ПРЫШЧЭПКА БУЛЬБЫ ДА ПАМІДОРАЎ.

У адным з амэрыканскіх вопытных садоў праведзены цікавыя вопыты прышчэпкі памідоравай галінкі да бульбы. Бульба з памідорам добра зрастаецца.

Верхняя частка расьліны дае значны ўраджай сьпелых памідораў, а ніжэйшая— нармальную колькасьць бульбы. Прышчэпка адбываецца вельмі проста і не патрабуе ніякіх стратаў.

## ПЕРАСАДКА ХЛЕБНЫХ РАСЬЛІН.

За апошнія часы ў Нямеччыне з посьпехам ўжываюцца вопыты з перасадкай хлебных культур, пры якіх дасягаецца зьмяншэньне пасеўнага матар'ялу. Звычайны пасеў патрабуе ад 80 да 100 кілё зерня на гэктар, пры ўжываньні-ж перасадкі для пасеву патрабавалася ўсяго 5 кілё.

Спосаб перасадкі такі: калі ўсходы вырастуць на 12—15 см., іх расаджваюць на роўнай адлегласьці па кутох квадратаў, а потым акучваюць, што надта важна для іх разьвіцьця.

З перасаджанай такім чынам расьліны вырастае некалькі ствалоў з доўгімі каласамі. Вынайдзены спэцыяльныя машыны, дзякуючы якім перасадка расьлін адбываецца хутка і не патрабуе вялікай затраты працы.




*Цікавае падабенства. На малюнку—галава чалавека і галава павука, якая павялічана ў шмат разоў.*

# НАША ГАЗЭТА

№ 6 Насьценная газэта чытачоў „Бел. Піонэра“ № 6


## І зямля аднолькавая, а розьніца якая!

У 1928 г. вясною мне прыслалі як прэмію насеньне з газэты „Беларуская Вёска“. Гэтае насеньне: гуркі, турнэпс, бручку і інш. я засеяў на невялікім кавалку зямлі. Зямлю я добра ўгноіў.

Поруч з маім агародам таксама засеяў сусед турнэпс і інш. гародніну. Надвор‘е тады ня вельмі спрыяла, але я засеяў так, як раілася ў кніжцы.

З нецярплівасьцю чакаў я таго дня, калі маё насеньне пачне ўсходзіць. У адну раніцу я гэта заўважыў і пачаў даглядаць свой агарод.

Я не даваў зарастаць рознай траве і палоў свае грады кожны дзень. Праўда, гуркі такі загінулі ад кепскага надвор‘я, але затое турнэпс быў удалы. Сусед дзівіўся з мае гародніны і казаў: „Вось бач, і зямля аднолькавая, а розьніца якая“. „Дагляд“—казаў я яму. Але старому было цяжка згадзіцца са мной і ён казаў: „Дагляд, дагляд—насеньне табе трапілася добрае, вось і расьце“.

Увосень з свайго маленькага агароду я зьняў каля 25 пуд. турнэпсу і каля 10 пуд. бручкі.

Я прапаную ўсім піонэрам узяцца за гэтую справу і праверыць на практыцы тое, аб чым пішуць у кніжках.

Дзяткор **Алесь Ландарскі.**

в. Кабыльле, Аршаншчына.

## ЗЬБІРАЕМ ПОПЕЛ І КОСЬЦІ.

У нас на зборы атраду было пастаўлена пытаньне аб падвышэньні ўраджайнасьці.

Прынялі мы такія прапановы.

Усім піонэрам узяцца за збор попелу і касьцей.

Сярод бацькоў правесьці гутаркі, каб яны ачышчалі насеньне перад сяўбой.

За работу ўзяліся дружна.

**Файтлін Ф.**

(Ляды, Аршанская акр.).



Так мы навучаемся працаваць.

## ПАМАГАЕМ ПАВЯЛІЧАЦЬ УРАДЖАИ.

Падрыхтоўка да паходу за ўраджай па Барысаўскай піонэрарганізацыі пачалася толькі з сакавіка. Ня гледзячы на гэта, мы ўжо маем некаторыя вынікі ў гэтай працы.

Атрадамі зьбіраецца папяровая макулатура, сродкі ад продажу якой будуць скарыстаны на трыер і малатарню для вёскі. Зьбіраецца таксама і попел.

Некаторыя атрады наладзілі выезды ў падшэфныя вёскі, каб азнаёміцца з сельска-гаспадарчай работай піонэраў, правесьці сярод іх гутаркі аб паходзе, выявіць патрэбы ў насеньні, угнаеньні ды інш.

Платныя вечары на карысьць сельска-гаспадарчых патрэб падшэфных атрадаў праведзены атрадам Працзямлесу і 8-й школай. Наладжваецца агітпрабег на лыжах, прысьвечаны паходу піонэраў за ўраджай.

Некаторыя атрады гор. Барысаву ня мелі падшэфных вёсак да апошняга часу. Гэтыя атрады просяць райком КП(б)Б аб прымацаваньні іх да пэўных вёсак, каб у парадку шэфства яны маглі-б дапамагчы сялянскім дзецям правесьці паход за ўраджай.

## 226 піонэрскіх агародаў.

*Згодна вестак акрбюро ЮП па Менскай акрузе зараз налічваецца 226 піонэрскіх агародаў, садоў і паказальных вучасткаў.*

*З гэтага ліку: вучасткаў, якія апрацоўваюцца асобнымі піонэрамі, ёсьць 145, групавых—55 і атрадных—26.*

## ШТО МЫ БАЧЫМ У С.-Г. МУЗЭІ.

За апошні час у сувязі з паходам за ўраджай павялічыўся лік дзіцячых экскурсій у Сельска-Гаспадарчы Музэй пры Менскім Доме Селяніна.

Пасьля наведаньня Музэю ўсе экскурсанты пішуць аб сваіх уражаньнях у спэцыяльнай кнізе.

Вось што пішуць, напрыклад, піонэры атраду Менакрфа:

„Шмат цікавага і карыснага для сябе мы бачылі ў Музэі.

Раім усім атрадам пабываць у Музэі, каб даведацца, ад чаго залежыць уздым сельскай гаспадаркі і якое значэньне мае павялічэньне ўраджайнасьці сялянскіх палёў“.

Піонэры атраду будаўнікоў:

„Вельмі задаволены экскурсіяй у Музэй, дзе мы шмат чаму навучыліся. Як і чым карміць жывёлу, угнойваць глебу, чысьціць насеньне і г. д. Аб усім гэтым мы тут даведаліся. Пастараемся, па магчымасьці, перадаць свае веды падшэфнаму атраду“.

Вучняў 39-й школы, якія наведалі Музэй, больш усяго зацікавілі аддзелы шкоднікаў сельскай гаспадаркі і ўгнаеньне глебы. „Кожны з нас пасьля экскурсіі ў Музэй возьмецца за збор попелу, пастараецца зрабіць шпакоўню, каб прывабіць карысных птушак—ворагаў шкоднікаў; гэтыя шпакоўні потым пашлем у вёску“.

Выхаванцы 5-га дзіцячага дому „дзякуюць свайму настаўніку за арганізацыю экскурсій і аграному—загадчыку Музэю, за яго тлумачэньні пры аглядзе экспонатаў. Яны абяцаюць да вясновай пасеўнай кампаніі паслаць лісты сваяком у вёску, напісаць як даглядаць жывёлу ды інш.“

## ЧАЙНАЯ ПРЫ ШКОЛЕ.

*Прасьпяваў званок, абвяшчаючы вялікі перапынак. Заварушыліся вучні другога канцэнтру, пачалі апранацца. Пашлі палуднаваць... Каму блізка, пабеглі дамоў, а каму далёка, тыя бягуць у школьную чайную, якая знаходзіцца ў будынку першага канцэнтру нашай сямігодкі.*

*Праходзіць яшчэ некалькі часу, і вучні сядзяць за вялікім сталом і п‘юць чай. Прыемна глядзець на гэты вучнёўскі колектыў. Як добра пасьля трох гадзін заняткаў падмацавацца гарачым чайком! Каштуе ён нядорага—усяго дзьве капейкі шклянка. Праўда, ёсьць у нашай чайной і недахопы, напрыклад, у ёй не прадаецца хлеб і яго прыходзіцца вучням прыносіць з дому.*

*„Не адразу Масква будавалася“—кажа наш коопэратар і організатар чайной вучань нашай сямігодкі Барыс Гінзбург. Так... Гэта праўда. Падмурак закладзены і з цягам часу будуць пабудованы сьцены.*

*Яўгені Зомэрфэльд.*

(Зямбінская сямігодка, Барысаўшчына).




У апошнія часы значна ўзмацнілася праца розных рэлігійных організацый. Выкрыта, што баптыцкая організацыя доўгі час вяла работу супроць Савецкай улады, мела сувязь з замежнымі буржуазнымі арганізацыямі. Рэлігійны дурман вельмі шкодны для працоўных мас. Піонэрам трэба асабліва змагацца супроць атручваньня царкоўнымі забабонамі дзіцячай масы. Піонэры і школьнікі! Уступайце ў саюз бязбожнікаў!

На здыму—дэмонстрацыя бязбожнікаў г. Менску.

## Азнаёміліся з працай менскіх піонэраў.

У сярэдзіне сакавіка ў Менск прыехала экскурсія барысаўскіх піонэраў. Экскурсія паставіла перад сабой мэту: азнаямленьне і абмен вопыту працы барысаўскай піонэрыі з менскай. Азнаямленьне з прамысловасьцю Менску.

У першы дзень экскурсіі быў наладжан сумесны вечар барысаўскіх піонэраў і менскіх, на якім адбыліся выступленьні менскага піонэрклюбу і барысаўскіх піонэраў.

У астатнія два дні былі наладжаны экскурсіі на заводы і ў музэі г. Менску.

Экскурсія наведала заводы „Энэргія“ і „Бальшавік“, Музэй Рэволюцыі.

У першы раз бабруйская піонэрыя ўбачыла галоўную радыёстанцыю Беларусі ў Менску.

Ад імя піонэрскай організацыі барысаўская экскурсія прывітала 5-ую акруговую конфэрэнцыю комсамолу, дзе адзначылі дасягненьні і недахопы ў нашай працы.

Экскурсія шмат прынесла карысьці барысаўскім піонэрам.

Юнкоры: **Горфінкель і З. Гурвіч.**

## ДЗЕЦІ ПРАЦОЎНЫХ—АДНА СЯМ‘Я.

За апошні час Менская акруговая піонэрская організацыя можа пахваліцца некаторымі дасягненьнямі ў галіне інтэрнацыянальнага выхаваньня. Ад выпадковых гутарак мы перайшлі да штодзённай сталай інтэрнацыянальнай працы.

Што-ж практычнага зрабілі мы.

З посьпехам прайшоў збор грошай на карысьць дзяцей Кітаю. Сабралі сярод дарослых па падпісных лістох ахвяраваньняў 300 з лішкам рублёў.

Зараз з няменшым посьпехам праходзіць **збор грошай для нямецкіх піонэраў**, над якімі трымае шэфства Менская організацыя. Гэты збор яшчэ ня кончыўся, але атрадамі і базамі ўжо сабрана 203 рублі.

Што-ж датычыцца пісьмовай сувязі з замежнымі піонэрамі, дык і тут справа наладжваецца з посьпехам. Рэгулярную перапіску з замежнымі дзецьмі праводзяць атрады Працасьветы, чыгуначнікаў, харчзаводу ды інш. Перапіска вядзецца праз чужаземны аддзел цэнтральнага піонэргабінэту ў Маскве, на мове эспэранто.

Асабліва шырока разгарнуў працу эспэранцкі гурток пры цэнтральным піонэрклюбе. Сябры гуртка атрымалі ўжо дзесяткі лістоў ад піонэраў розных краін.

Але гэтага нельга сказаць пра ўзаемаадносіны між сабой піонэраў і вучняў розных нацый у нас.

Мы маем на ўвазе шэраг праяў антысэмітызму і наогул нацварожасьці ў дзіцячым асяродзьдзі, якія мелі месца ў атрадах і школах Менску за апошні час. Вось некалькі прыкладаў:

У атрадзе шклозаводу „Пролетары“, які, да рэчы, складаецца на палову з дзяцей гандляроў і іншага непрацоўнага элемэнту, чутны такія гутаркі з боку асобных піонэраў: „Не хачу быць разам з жыдам у адным зьвяне“.

Вучань 37-й польскай школы Д., бацька якога, паміж іншым, пазбаўлены выбарчых правоў, як былы жандар, відаць, пад уплывам апошняга падбухторвае сваіх таварышоў па клясе дамагацца, каб зьняць з працы настаўніка-яўрэя.

Ёсьць і выпадкі, калі дзеці-яўрэі варожа адносяцца да беларусаў. У 18-й школе, напрыклад, вучні-яўрэі палажылі вучня-беларуса на парту і запэцкалі яму жывот атрамантам. Характэрна, што настаўніцтва і фарпост не паклапаціліся як сьлед пакараць вінаватых, а казалі, што гэты быў „звычайны жарт“.

Але-ж невыпадкова, што ўдзельнікі „жартаў“ належаць да сем‘яў нэпманаў і розных „былых“ людзей, якія варожа адносяцца да савецкай улады.

Фарпосты і школькомы павінны зрабіць належныя вывады з усяго гэтага. Трэба больш уважліва сачыць за жыцьцём школ, дасканала ведаць настроі вучняў, не дапушчаць такіх выпадкаў антысэмітызму і сярод дзяцей выхоўваць дзіцячую масу ў сапраўды інтэрнацыянальным напрамку: наладжваць у атрадах і школах інтэрнацыянальныя куткі, праводзіць супольныя вечары польскіх беларускіх і яўрэйскіх школ і інш.

Піонэры, як больш сьвядомыя дзеці, павінны быць ініцыятарамі гэтых мерапрыемстваў, дапамагчы зьнішчыць канчаткова антысэмітызм—ганебную спадчыну старога ладу.

*Павадыр.*



Слухае радыё.

# ЗГУРТАВАЛІСЯ

*Апавяданьне Н. ШУТКО*

*Малюнкі ІЗМАЙЛАВА*

У Марынкі і Міколы была адна думка: як-бы гэта залезьці ў сад Зубава і нарваць яблыкаў.

Дома ім ня было чаго рабіць ды зусім нельга было заставацца. Толькі пасьнедаюць яны раніцай, як бацька пачынае сьпяваць нудную, доўгую песьню і пастукваць малатком—боты шые, а матка зьбярэ са стала талеркі і кажа: „Ну, пашлі на вуліцу, абармоты, не таўчэцеся пад нагамі!"

Марынка і Мікола ішлі на вуліцу, а там... ці мала працы на вуліцы, ці мала ёсьць чаго наглядаць?! Калі зьбярэцца іх чалавек дзесяць, усё такіх, як Марынка і Мікола, абадраных і брудных, ды калі пойдуць усёй грамадой у асяродак гораду, вось тады цікавага нагледзяцца.

Вокны ЦРК вялікія, а ў іх роўнымі радочкамі зложаныя ў карабочках цукеркі, яблыкі ляжаць з чырвонымі бакамі, прыгожыя... А ў другім вакне цацкі розныя: мячы, лялькі... але Марынка ня любіць лялек. Яна заўсёды гуляе з кіёчкамі, каменьчыкамі і ня горш за Міколу страшыць з рагаткі вераб'ёў. За тое хлопцы яе паважаюць і прымаюць у сваю кампанію.

Вось і зараз: куды йсьці, калі матка праганяе? На вуліцу,— куды-ж яшчэ?! Але сёньня няма калі йсьці глядзець на вокны ЦРК, і навошта дзівіцца на яблыкі ў вакне, калі самім можна дастаць іх ды зьесьці.

Мікола ішоў вялікімі крокамі, а Марынка паганяла яго і заглядала ў вочы.—Хто з намі яшчэ?

Мікола старэйшы за Марынку і разумнейшым лічыць сябе: гэта-ж ён, а не яна, прыдумаў ісьці за яблыкамі.

— Там пабачым...

— Янку ня трэба браць... Ён нас ашукае, сам толькі наесца; памятуеш, як тады.

— Ну, гэта я ведаю, што і як...

Зьвярнулі ў завулак, дзе хаты яшчэ больш пахіліліся на бок, чым на іх вуліцы. Нават хто ня ведае, не сказаў-бы, ці гэта горад, ці гэта вёска.

Першага ўбачылі Паўлу.

— Што робіш?

— Млын, — сур'ёзна адказаў Паўла і паказаў дзьве дошкі, зьбітыя цьвіком пасярэдзіне.

— Глядзі, добрыя крыльлі. Ня трэба болей падразаць?

— Дзе ты нож узяў,—спытаў Мікола.

— У бацькі ўзяў. Ці добра я зрабіў?

— А ці ёсьць у цябе малаток?

— А табе навошта?

Марынка спахмурнела.—Мікола, ня трэба яму.

— Не, кажы: ёсьць малаток?

Павал падняў дошкі, адлажыў іх у бок. Твар яго прасьвятлеў. Ну, што-ж, калі Міколу ня цікавіць яго млын? За тое ён нешта ведае.

— Ну, я дам малаток!



— Дык зараз!

— Зараз не... бо бацька ў хаце. Во, каб заўтра... раніцай.

— Раніцай!.. Мне зараз патрэбна.

— Хлопцы, аб чым вы гэта?— падышоў Ляксандра.

Марына зноў на Міколу зірнула і ўхапіла яго за кашулю: — Маўчы!

— Слухай, Ляксандра, хадзем да шэрай хаты.

Каля шэрай хаты заўсёды зьбіраліся. Уласна кажучы, хаты ня было; яна згарэла яшчэ ўвесну, але была на тым месцы разбураная печ і некалькі апаленых слупоў.

Ляксандра ня любіць шпарка гаварыць, а Павал заўсёды сьпяшаецца:

— Ну, кажы хутчэй, Мікола!

— Сёньня што?

— Субота. Ну, дык што?

— А тое... Зубаў з старой пойдуць у царкву.

— І нікога дома не заста...

Трохі пагаманіўшы, дзеці пашлі.

Наперадзе малая спрытная Марынка, потым Мікола з Паўлам, апошнім ішоў Ляксандра. Вось яны каля саду. Зялёныя галіны яблык валяць да сябе. Ня ўсе яблыкі яшчэ пасьпелі. Каб гэта тыдні са два пачакаць... Але некалі чакаць. Вось тое месца, дзе дрот, адарваны некім (раней), ляжыць на зямлі. У завулку нікога няма. Мікола ідзе першы. Маліньнік коле рукі, наперадзе нічога ня відаць.

Няма гатовай сьцежкі.

Ужо ўсе ў садзе. Троху крапіва жаліць, але ўсё роўна! Нехта быццам гамоніць. Сталі прыслухоўвацца, а потым зноў пашлі.

Хто ўзьбярэцца на яблыню,—пытае Мікола.

— А мо' на зямлі ёсьць,—кажа Ляксандра.

— Ба-а-ба,—цягне Марынка,—хлопцы, хто з вас не баіцца лезьці на дрэва?

— Хтось гамоніць тут блізка, ня хлушу!

— Дык ці нам баяцца! Гэта напэўна з нашай вуліцы хлопцы, таксама, як мы, прышлі.

Далей—шырокая сьцежка.

Глянулі з-за кустоў. На лаўцы ля стала сядзяць чацьвёра малых хлапцоў. Ляксандра думаў ужо ўцячы.

— Гэта-ж Зубава ўнук. Хадзем!

— А я не пайду,—цьвёрда праказала Марынка.

— Цыц! Пачуюць. У іх чырвоныя стужкі на шыях. Чытаюць нешта...

— А я не ведаў, што ў Зубава ўнук ёсьць. Мо' прыехаў учора. Глядзі, той, што вышэй, устаў. Ну, заўважыць—дасьць!

А хлопцы, якія сядзяць ды чытаюць і ня ведалі, што праз кусты іх глядзяць васьмёра шэрых вачэй.

Скончылі чытаць і ўсе загаманілі. Потым адзін крыкнуў:

— Таварышы! Гуляць будзем?

— Будзем,—адказалі іншыя.

Прынесьлі мяч.

— Станьма ў круг, — сказаў Зубаў.

— Шкада, што няма Пятруся, Надзеі і Ганны,—нас мала.

Усе пасталі ў круг, і мяч пачаў лётаць ад аднаго да другога.

— Не, вось той малы, што ў шэрай кашулі, ня зловіць!

— Глядзі, Павал: злавіў! Во спрытна як!

— Глядзі, як Зубаў кідае высока і ўсё роўна той ловіць.

— А во й ня зловіць!—забыўшыся, крыкнула Марынка.

— Хлопцы! Там нехта ёсьць у кустох,—сказаў адзін з іх,— Язэпка, пойдзем, паглядзім.

— Лепш пайдзі адзін, бо яшчэ спужаюцца ды ўцякуць. Гэта напэўна дзеці з Глухой вуліцы.

Але дзеці і ня думалі ўцякаць. Яны стаялі і з цікавасьцю глядзелі на гульню.

Язэп падбег бліжэй і крыкнуў: чаго вы стаіце? Хадзем гуляць з намі!

Мікола і Паўла вышлі з-за кустоў і падышлі да Язэпа. Ляксандра стаяў на месцы і глядзеў на Язэпа. Марынка засунула палец у рот і падазрона аглядала хлопца з чырвоным гальштукам на шыі.

— А ты нічога нам ня зробіш?— спытаў Ляксандра.

— Што ты! Хадзем гуляць. Я цябе навучу гуляць у „пабіты гаршчок".

— Я ня ведаю як,—казаў Ляксандра. А Мікола з Паўлам пашлі за Язэпам; несьпяшаючыся, пашла і Марынка.

Зараз будзем гуляць у кошкімышкі. Як вас завуць, малыя?

— Я не малая, мне восем гадоў!—сказала Марынка.

— Бярэцеся за рукі!

Мікола ўзяў Ляксандру за руку. Потым нясьмела ўзяў за руку незнаёмага хлопца.

— Я буду мышкай!—нечакана сказала Марынка і, быццам засаромілася, зараз-жа змоўкла.



Як-жа спрытна яна бегала! Вялікі Зубаў, якога звалі Янкам, ня мог ніяк злавіць Марынку.

— Таварышы! Хто хоча гуляць у пабіты гаршчок?—прапанаваў Язэп.

— Я, я, я!—загаманілі дзеці.

Янка пабег да дому і хутка вярнуўся з старым макацёрам у руках.

— Палка дзе?

— Івась, у цябе добрая палка, давай сюды!

Першы вышаў Язэп. Янка завязаў яму вочы чыстай хустачкай. Ён набліжаўся да макацёра, ці адыходзіў ад яго, але ўсё толькі махаў палкай у паветры—ні разу не папаў.

Потым завязалі вочы Міколу і пусьцілі. А Марынка бегала навакол хлопцаў і крычала:

— Бліжэй! Бліжэй! А ну вось тута, тута, бі хутчэй!

Нарэшце Мікола папаў ды так спрытна, што макацёр рассыпаўся на дробныя кавалачкі.

Гульня скончылася і ўсе селі адпачыць. Хто на траве, хто на лаве.

Павал пасьмялеў: ён узяў кніжку са стала, якую раней чыталі незнаёмыя хлопцы, і пачаў глядзець малюнкі. Мікола і Ляксандра падышлі таксама.

— Ты чытаць умееш,—спытаў Івась Міколу.

— Троху...

— А я зусім ня ўмею,—ціха праказалі Ляксандра і Павал.

— Чаму вы ў школу ня ходзіце?

— Я матцы дапамагаю... У мяне бацькі няма—адказаў Ляксандра

— А я... я сам ня ведаю чаму. Зімою, мабыць, пайду. Мне дзевяць гадоў,—сказаў Павал.

Мікола казаў: тут намалёван кучаравы хлопчык, ён падобны да Зоськінага Янкі. А вось тут нейкі дзядзька стаіць і нешта кажа людзям, а тут дзядзька адзін сядзіць ля стала, нешта піша.

— А я ведаю, хто гэта!—раптам весела сказаў Павал.

— Ну, хто?—спыталі хлапцы.

— Гэта Ленін! Што, няпраўду я кажу?

— Праўда,—адказаў Язэп.

— У нас сусед ёсьць; ён працуе на фабрыцы. У яго пакоі над сталом вісіць якраз гэткі малюнак: сядзіць ля стала Ленін і піша.

— І я бачыў Леніна — казаў Мікола.

— Мікола, а ты ведаеш, хто такі быў Ленін?—спытаў Язэп.

— Не... А ты раскажы нам.

— Добра!

Дзеці з Глухой вуліцы хутка паселі адзін ля другога. Умеў Івась апавядаць, і слухалі яго дзеці з інтарэсам.

Ляксандра слухаў, слухаў ды сказаў:

— А чаму вы ведаеце ўсё гэта, а мы ня ведаем?

— Вам гэта настаўнік ў школе расказваў?—спытаў Мікола.

— Так, але многа чаго мы ўведалі ў нас у атрадзе. У атрадзе і гуляюць, і вучацца, і песьні сьпяваюць...—пачаў Янка.

— Вы ўмееце песьні сьпяваць? Вы-б засьпявалі зараз,—папрасіла Марынка.

Пасьля дажджу сонейка прасачвалася праз лісьцё яблынь і прыгожымі зайчыкамі скакала па траўцы.

Хто за нас—ідзі з намі!
Быў чужы — ты будзеш брат!
Той, хто стаў пад сьцяг чырвоны—
Той ня вернецца назад!

Слухалі дзеці і самім хацелася весела сьпяваць, прылучыцца да гэтых хлопцаў з чырвонымі гальштукамі. А яшчэ лепш — ісьці ўздоўж Глухой вуліцы і сьпяваць з піонэрамі, каб усе бачылі, каб усе дзеці глядзелі на іх.

— Я жадаю быць, як вы, піонэрам,—сказаў Павал. Усе іншыя дзеці яго падтрымалі.

Глянулі піонэры адзін на аднаго, потым на дзяцей з Глухой вуліцы.

— Прыходзьце да нас у клюб. Там і такія малыя ёсьць, як вы.

— Таксама з чырвонымі істужкамі?

— Не, не піонэры. Яны акцябратамі завуцца.

— Акцябратамі? А што яны— гуляюць і вучацца, як піонэры?

— Троху падрастуць, будуць піонэрамі,—сказаў Янка Зубаў.

— Праз два дні прыходзьце да нас на сход.

— Добра, добра — запляскала ў далоні Марынка.

І яшчэ з часіну гулялі яны, а потым дамоў варочацца не хацелася.

Усе разам—Івась, Язэп, Янка і Міхась—правялі дзяцей да дому.

Зьдзівілася матка, калі заўсёды запэцканая, не дагледжаная Марынка рашуча сказала:—сёньня, мама, дасьце мне чыстае адзеньне.

— Гэта чаму? Да суботы чакай. Ня маю я па дваццаць кашуляў, абармоты вы.

— Мне кашулю чыстую,—сказаў Мікола.

— Ня дам, куды гэта вы? На вуліцу новую кашулю пэцкаць?! Палажы, не чапай!

Але Мікола ўжо схапіў кашулю і адзеў яе. А Марынка ўпарта паўтарала: пойдзем на сход!

— Які там сход прыдумалі? Чаго дзьверы расчынілі, куранят упусьцілі.

Але яны свайго дабіліся. Як ні злавала матка, але пайшлі яны ў чыстай вопратцы. Зьдзівілася матка, калі дзеці вярнуліся назад чыстымі і ніводнай дзіркі ня было на іх кашулях.

Так „*абармоты*“ акцябратамі сталі.

# Як даглядаць вывадкі

*На панадворку ў Васілька, пад страхою, за ноч вывеліся куранятті. Матка раніцой прынесла іх у хату і сказала дзецям, выходзячы на працу:*

*— Глядзеце, ня скіньце кошыка з куранятамі. Вечарам іх падпусьцім да квактухі, а потым самі будзем даглядаць іх, карміць і паіць.*

*— Мама, а мама! А чым іх кормяць?*

*— Вунь я зварыла яйка... Потым скажу вам.*

*І пашла.*

*Дзеці ня вынерпелі, праз гадзіну пачалі глядзець куранят.*

*Спачатку ўсё заціхла, а пасьля пачало пішчаць некалькі галасоў.*

*— Напэўна, яны есьці хочуць,— сказала Марылька,—давай іх накормім... І накармілі.*

*На наступную раніцу, калі дзеці з маткаю прышлі паглядзець куранят і паднялі квактуху, пад ёй было трое няжывых куранят, іншыя былі вялымі, але трымаліся на нагах, і весела бегалі толькі тыя, якія вывеліся ўдзень і іх ня бралі ў хату.*

*У гэты час праходзіў аграном і ўбачыў, як матка выносіла з панадворку няжывых куранят.*

*— Што гэта ў вас з куранятамі?*

*— Да мы і самі ня ведаем... Аграном агледзеў куранят і і сказаў:*

*— Пакармілі вы іх заранье, а раней як праз суткі ня можна карміць. Першаю ежай служыць крутое яйцо. З першых дзён куранятам трэба дзяўбці пясок, які памагае пераварваць у страўніку ежу.*

*Кармеце раніцою, вечарам і разоў чатыры ў дзень. Давай гэтулькі, колькі куранё можа зьесьці.*

*На другі дзень куранятам можна даваць чэрствы белы хлеб, памочаны ў малацэ і зьмешаны з яйкамі.*

*На чацьверты дзень даюць крыху пшанічнай кашы з насечаным зяленівам. Вельмі карысна даваць дзяўбці тварог і паіць малаком, куды дабаўляць крышку крэйды.*

*На 7-ы дзень можна перастаць даваць яйкі і перайсьці на зернявы, вараны або крышаны корм, але жыта даваць нельга. У гэты час куранята добра гуляюць і ловяць чарвякоў і мошак.*

*Качанят кормяць першы раз к канцу другіх сутак белым хлебам, змочаным у малацэ. На трэці-чацьверты дзень качаняты дзяўбуць ужо пшанічную кашу, толькі рэдзенькую, бо цьвёрдай ежы качаняты ў першы дзень дзяўбці ня могуць.*

*Гусянят кормяць праз 24 гадзіны пасьля зьяўленьня на сьвет. Першая ежа, гэта—мешаніна дробнапасечанага варанага яйца, зяленіва (лепш усяго апаранай сечанай крапівы) і крышку хлеба. На трэці дзень можна пачаць карміць пшанічнаю кашаю ўжо без яйца. Ежа насыпаецца не ў кармушкі, а на тоўстую тканіну або чысты мяшок. Ваду даюць на трэція суткі. Першы тыдзень гусянят не патрэбна пускаць на двор, а потым—гледзячы па пагодзе, і не раніцой па расе. Трэба памятаць, што гусяняты баяцца вільгаці, ад чаго, галоўным чынам, яны і гінуць.*

**В. Мансьветаў.**



# ЛЯСНЫЯ ЛЮДЗІ



*Жанчына удэхэйка корміць запражных сабак ля дзьвярэй свае хаты.*

Шмат рознага народу жыве ў вялікім Саюзе Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік. Усяго налічваецца 190 розных народнасьцяй. Сярод іх ёсьць такія, аб якіх у нас нават ніхто ня чуў. Ёсьць народнасьці, якія складаюцца ўсяго толькі з 200 чалавек. Вядома, некалі іх было значна болей, але больш моцныя народы адсунулі іх у дзкія, бедныя мясьціны, і тамака, у дрэнных умовах, людзі паступова пачалі выміраць.

Да такіх народаў адносяцца і „удэхэйцы", аб якіх тутака ідзе гутарка.

Яны жывуць у лясох Усурыйскага краю (каля Ўладывастоку) і налічваюць крыху болей за тысячу чалавек. Усё іх жыцьцё зьвязана з лесам, таму іх завуць яшчэ „ляснымі людзьмі".

Займаюцца выключна паляваньнем і рыбнай лоўляй. Адзеньне шыюць, галоўным чынам, з зьвярыных скураў. Жывуць у шалашох з гальля; у сярэдзіне ніякага абсталяваньня апрача вогнішча. Калі зьвяр'я і рыбы навакол зьмяншаецца, яны кідаюць свой шалаш, пераходзяць на другое месца і тамака будуюць новы.

Склад іх жыцьця, звычаі, рэлігія—самыя першабытныя. Галоўная асоба ў іх—*Шаман*, гэта іх поп. Ён лечыць і бароніць людзей ад злых духаў. Дзеля гэтага ён чапляе на сябе розныя цацкі (стужкі, губы зьвяроў, бляшанкі), б'е ў барабан і скача да няпрытомнасьці Гэта лічыцца і набажэнствам і лячэньнем.

Становішча жанчын у іх надзвычайна цяжкае. Мужчына толькі забівае зьвера, а рэшта—справа жанчыны. Мужчына нават ня хоча зьвера несьці да дому.

Жэняць сваіх дзяцей выключна бацькі. Яны дагаварваюцца, колькі трэба плаціць за дзяўчыну і наогул вырашаюць справу бяз удзелу маладых. А маладыя часам бываюць занадта малыя: гадоў па 8. Бываюць выпадкі, калі нявесьце 7 год, а жаніху 70. Пісьменнасьці сваёй, вядома, яны ня маюць. Мова іх надта бедная: некалькі соцень слоў у штодзённым ужытку—і ўсё. Ад суседзяў яны навучыліся курыць і кураць усе: і бацька, і матка, і дзеці з гадоў пяці.

Нядаўна туды езьдзіла экспэдыцыя, каб засьняць удэхэйцаў на кінофільм. Вядома, яны палохаліся і не даваліся. Тады склалі з імі ўмову, што яны наймаюцца на працу за 2 р. 50 к. у дзень і павінны рабіць усё тое, што ім загадаюць. Ї вось пачалі ім загадваць: сядзь так, сядзь гэтак, гатуй страву, ідзі на паляваньне, шый сваё адзеньне і г. д. Дзівіліся людзі, што за такую працу ім акуратна плаціць грошы, але выконвалі працу добрасумленна. Але для некаторых жанчын праца гэта была надта цяжкай. Галава ніяк не магла ўразумець, як гэта так паварачвацца і наўмысьля нешта рабіць, і аднаго разу адна жанчына ад напружаньня розуму нават страціла прытомнасьць.

Жыцьцё ўдэхайцаў цалкам залежыць ад рыбы і зьвяроў. Але усё гэта паступова зьмяншаецца. Каб пазбавіцца ад гэткай залежнасьці ад прыроды, удэхэйцам неабходна навучыцца самім весьці гаспадарку. Яны патроху і пачынаюць пераймаць гэта ад суседзяй—карэйцаў і расійцаў.

Адзін з удэхэйцаў пабываў у горадзе. Тамака яму растлумачылі, як можна жыць па-людзку і як савецкая ўлада можа дапамагчы гэтаму. Прышоўшы да сваіх ён пачаў расказваць, што ёсьць магчымасьць пазбавіцца ад бадзяньняў і шуканьняў здабычы, што можна пасеяць хлеб, сядзець сабе на месцы і чакаць, пакуль ён вырасьце. Яго зноў адправілі ў горад за дапамогай і, такім чынам, удэхэйцы зьвязаліся з культурай. Пачынаюцца першыя спробы сельскай гаспадаркі і нават у некаторых зьявілася ахвота навучыцца—„размаўляць з паперай", як яны завуць чытаньне і пісаньне.

Я. М.



*Сям'я удэхэйцаў. У сярэдзіне галава сям'і (бацька) з жонкаю, побач дзеці і ўнукі.*

# Гарыбальдзі і П'еро

Верш Ю. ТАЎБІНА

Малюнкі М. ФІЛІПОВІЧА

*(З забытых паданьняў).*

Гарыбальдзі[1] сядзіць спахмурнелы ў піўной,
П'яны гоман гручыць ля яго за сьцяной.
Гэты шум, гэты стук тут ліецца ўвесь век,
Ад яго не знайсьці ні спакою, ні лек.
Гарыбальдзі сядзіць за шырокім сталом,
Абапёрся ў разьбіты ён сподак лакцём
Ды задумна глядзіць. У яго ў галаве:
„Гарыбальдзі, краіна заве!“
Хлопчык П'еро разносіць бутэлкі ў піўной,
П'яны гоман гручыць ля яго за сьцяной.
Гэты стук, гэты шум тут ліецца ўвесь век,
Ад яго не знайсьці ні спакою, ні лек.
Хлопчык П'еро самотны—бо долю яго
Рвуць на часткі паны і руйнуе агонь.
Ён задумны ідзе... У яго ў галаве:
„Хлопчык, П'еро, краіна заве!“
Гарыбальдзі сядзіць спахмурнелы, бляды...
У няволі правёў ён юнацтва гады.
Але дзеці яго мусяць волю спазнаць!
На прасторах Італіі будзе вясна...
Заўтра трэба на вышку высокай скалы,
Тэй высокай скалы, дзе лунаюць арлы,
Ўскінуць сьцяг, каб той сьцяг ў сіняве
Абвяшчаў, што краіна жыве!..
Хлопчык П'еро глядзіць задумлены, бляды.
„Гэта ён—незабыўны айцец — правадыр.
Гэта ён — Гарыбальдзі сядзіць за сталом,
Абапёрся ў разьбіты іс подак лакцём.
Гэта ён заклікаў італьлянцаў з сабой
За народную волю са зброяй у бой,
Гэта ён абвяшчаў, што і ў цемні завей
Іх краіна жыве і жыве!
Хлопчык П'еро прышоў, хлопчык П'еро сказаў:
„Гарыбальдзі, я гора нямала спазнаў.
Бацьку з маткай забілі аўстрыйцы ў мяне,
Двух братоў загубілі яны-ж а раней...
Я хацеў-бы аўстрыйцам за гэта памсьціць,
Я хацеў-бы дажыць да шчасьнейшай пары!

Гарыбальдзі устаў, спахмурнелы, бляды,
І сказаў хлапчуку маладому тады:
„Ты памсьціш... Ты павінен памсьціць і спазнаць,
Што і ў нашай Італіі будзе вясна...
Заўтра рана узыйдзеш на вышку скалы,
Той высокай скалы, дзе лунаюць арлы,
Ўскінеш сьцяг, каб той сьцяг ў сіняве
Абвяшчаў, што краіна жыве...
Гэта сьцяг—для паўстаньня умоўны сыгнал,
Каб спыніць над працоўнымі гвалт,
Бо з далёкай Далмацыі, з дзікіх Карпат,
Мне падвозяць сябры батарэі гармат.
Батарэі гармат будуць ворага біць
І навучаць унукаў краіну любіць“.
Заўтра раньнем, як сонца на схілах гары
Рассыпала пярсьцёнкі ліпнёвай зары,
Ён узьняўся на вышку высокай скалы,
Той высокай скалы, дзе лунаюць арлы.
Ўскінуў сьцяг, і той сьцяг вызваленчых краёў
Разгарнуўся ад шумных вятроў,
Абвясьціўшы тады ў сіняве,



Што краіна жыве і жыве!..
Але там, дзе скалу аддзялялі равы,
Крочыў ўперад і ўзад аўстрыяк-вартавы,—
Ён хацеў паглядзець, як зьяўляецца дзень,
І убачыў на схіле дзіцячую цень.

---

[1] Італьлянскі народны гэрой, змагар за вызваленьне Італіі.



Ён угору узьняў карабін,
Дзікі стрэл прагучэў між далін,
Прагучэў дзікі крык ў сіняве,
Што краіна жыве і жыве!..

* * *

З той пары прамінула нямала гадоў...
Гарыбальдзі і П'еро ня прыдуць ізноў...
І ня знаюць яны, што—няволі сыны
Італьлянцы ў абшарах сваёй стараны!
Што пад гэтай скалой, дзе лунаюць арлы,
Ходзіць чорны фашыст—вартавы той скалы,
І фашыст Гарыбальдаву песьню пяе,
Што краіна нібы-та жыве...
Італьлянцы! Браты!.. Узьнімайцеся зноў...
Карманьола гучыць між шырокіх палёў,
Гэй, касцы! Натачэце лязо,
Набліжаецца ваша жніво.
Кавалі, на кавадлах сякер
Намайструйце чым болей цяпер!
Чырвань сьцяг залунаў на ўвесь сьвет—
Гэта край вас да зброі заве!

# ЗЬМЯІНАЯ ЖАНЧЫНА

*(Паводле нарысу Марыэты Шагінян)*

На мяжы СССР з Пэрсіяй, у гарыстай Арменіі, на беразе рэчкі Араксу — разьмясьцілася вёска Давалу.

Галоўнае жыхарства тае мясцовасьці ня людзі, не зьвяры, не казюлькі, а зьмеі. Зьмеямі кішыць уся мясцовасьць: іх можна знайсьці ў хаце на падлозе, у збане з вадой, у садзе і г. д. Зімою зьмеі сьпяць і тады яны шкоды ня робяць. Але затое ўлетку яны—галоўная згуба для насельніцтва.

Шэсьць год таму назад у вёску Давалу з Пэрсіі пераехала сям'я. Адзін раз у хату да гэтай сям'і зайшоў партыец-доктар. У калысцы ляжала малое дзіця і нечага прасіла. Тады матка дастала з скрыначкі невялічкую гадзюку і дала яе ў рукі дзіцяці—дзіця сьціхала... і пачало забаўляцца з гадзюкай, як з якой-небудзь цацкай. Напалоханы доктар агледзеўся і ўбачыў сябе абкружаным зьмяіным царствам. Гадзюкі былі ў пасудзінах, скрынках і г. д. Самая атрутная гадзюка Армэніі, гюрза, ляжала ў яе за пазухай.

Так упяршыню Армянская грамадзкасьць сустрэлася з зьмяінай жанчынай.

Джаваір — так завуць гэтую жанчыну—на вёсцы карыстаецца вялікай павагай. Пра яе ведае ўся Арменія, бо яна вылечвае ад укусу гадзюкі. Перад хатай гэтай жанчыны ледзь ня цэлая амбуляторыя месьціцца.

Лечыць яна наступным чынам: прамывае рану, нагінаецца да яе, зьбірае ў роце сьліну, плюе ў рану, а зьверху, саграваючы кампрэс, кладзе ліст лопуху. Амаль кожныя пяць хвілін ліст чарнее, курчыцца ад гарачыні вопухалі і яго трэба мяняць на сьвежы. Тры разы ў дзень Джаваір паўтарае сваё лячэньне. На 4-ты дзень укушаны ачуньвае. Сьмяротных выпадкаў Джаваір ня ведае. Некаторые тамтэйшыя дактары кажуць, што гэта „знахарства", „машэнства", але вучоны доктар Шалкоўнікаў кажа, што ў зьмяінай жанчыны „ў крыві ёсьць зьмяіны імунітэт" (проціатрутнасьць), бо ўкусы гадзюкі ёй шкоды ня робяць.

Якім чынам Джаваір навучылася лячыць—невядома. Яна ня кажа.

Але, бязумоўна, яе „знахаркай" лічыць нельга і сакрэт яе лячэньня можа скора стаць вядомым і мэдыцыне.

Нядаўна ў часопісі „Огонек" профэсар *Г. Беланоўскі* зьмясьціў артыкул пра тое, як навука змагаецца з укусамі зьмеяў і якія для гэтага ёсьць сродкі.

Укусы зьмяі лечацца асобнай сыроваткай, якую ўпрысківаюць чалавеку. Гэта сыроватка прыгатаўляецца так: бяруць зьмяіную атруту, распускаюць яе ў вадзе і ўпускаюць у кроў каня. Потым конская кроў набывае такую сілу што з яе шляхам навуковых спосабаў робяць сыроватку, якая мае супроцьатрутную сілу.

Адносна факту, аб якім апавядае М. Шагінян, профэсар кажа: Тут здарылася хутчэй усяго тое, што гэта жанчына тым ці іншым спосабам праглатвала раней зьмяіную атруту, магчыма, яе ня раз кусалі зьмеі (слабыя ўкусы). Усё гэта дапамагло таму, што ў крыві і ў сьліне гэтай бабы зьявіліся супроцьатрутныя сродкі.



*Джаваір са зьмеямі.*



ГУМАРЫСТЫЧНАЯ ГАЗЭТА ПІОНЭРАЎ № 6.

*Усім, хто закранут у гэтых маіх лістох, прышпіляю калючкі, жадаю, каб чым хутчэй ад іх пазбавіцца. А гэта можна зрабіць, паставіўшы належным чынам працу. Кабыльле, Скарбоўцы, Барысаўская 3-я школа, Ляды! Чакаю найхутчэйшага пазбаўленьня ад калючак!* **ВОЖЫК.**

## 1. ЛЮБЯЦЬ ВЕЧАРЫНКУ.

Піонэры вёскі Кабыльле: Пятрок, Янук, Хвядось, Марыля і яшчэ некаторыя асобы, набылі сабе надта цяжкую хваробу. Калі дзе-небудзь рыпне гармонік, іх нібы віхрам туды гоніць,—ня то што на збор атраду! Тут не застанецца ніхто ззаду — упарта бягуць у хату канцавой Агаты. Ну, а на вечарынцы (для фанабэрыі) хлопцы, хоць і піонэры, махорку павымаюць і, як „мужчыны цягаюць“. Дзяўчаты-ж скачуць на славу,—дамоў ідуць амаль толькі ў халявах: патопчуць і падэшву і абцасы. Ня дрэмлюць і хлопцы тымчасам—ідуць польку, кракавяка, упацеюць, бы ў лазьні небаракі, пот льлецца цурком. І гэтак кожным суботнім вечарком, калі толькі зазьяюць агні, і гармонік дзе-небудзь зазьвініць!

## 2. ПАРВЕ АБАВЯЗКОВА.

Ня люблю я такіх людзей да болю, як піонэрка Скарбоўскага піонэратраду Волька. Выбралі яе ў рэдакцыю насьценгазэты атраднай. Ну і што-ж, здаецца трэба быць і радай, актыўна працаваць і дрэнныя бакі ў працы зьнішчаць. І Вольга працуе, бясспрэчна, толькі праца яе зьяўляецца недарэчнай. Калі які піонэр у газэту напіша сякую-такую заметку, то, не сказаўшы нікому ні слова, парве возьме абавязкова і асабліва тады ўпарта рве, калі гэта заметка закранае яе!

— Чаму ты так робіш?—іншы раз запытаеш. І ў адказ: „Ты газэтнай справы ня знаеш!“ І тут нос угору. А атраду праз гэта—гора. Да тэрміну газэта ня выходзіць, бо Волька ў працы шкодзіць.

## 3. ДЗЕ КІРАЎНІК?

У 3-й Барысаўскай школе надзвычайная радасьць і раздольле. Гэта-ж бо організавалі там ваенны гурток. Склікалі некалькі сходаў, абгаварылі плян працы—і... досыць! Перасталі займацца. А вучні, трэба прызнацца, надзвычайна цікавяцца ваенізацыяй. А цяпер праца заснула і суму ня стрымаць — а прычына гэтаму тая, што кіраўніка няма, і я вельмі зьдзівіўся, чаму аб кіраўніку ніхто не паклапаціўся.

## 4. ЦІ АТРАД ГЭТА?

Піонэры м. Ляды гальштукаў ня носяць, у мужчын курыць просяць, наведваюць вечарынкі, лаюцца, і дарэмна піонэрамі называюцца. Калі Янка гальштук атрымаў—думаў, што нічога ў сьвеце лепшага за гальштук няма. А потым? Потым... стаў чысьціць гальштукам боты... І гэта не выпадкова, нават пам. павадыра Касьцянова ня вучыць дабру Янку ці Рыгорку,—яна ходзіць рэгулярна на п'яныя вячоркі, і таму я стаўлю пытаньне так:—ці атрад гэта, ці проста так?



*Курэц з в. Кабыльля.*

## ВОЖЫК ЧЫТАЕ ВЕРШЫ.

Я, бачыце, пішу лісты свае крыху складна, ці, як кажуць, у рыфму. Пішу і вельмі зайздрошчу „поэтам“, якія ўжо добра ўладаюць рыфмаю і ўсім, чым ты хочаш.

Ніяк пагадзіцца не магу з тым, што нейкі Алесь Ваўчок пераганяе мяне ў сэнсе мастацтва. Сустрэў я яго ў мястэчку Леніна, Бабруйскай акругі, а ён—тыц мне „ерш“—ці бок верш. Чытаю.

### НЕ ХАЧУ.

Не хачу я харомаў,
палацаў,
Не хачу я багацьця,
царквоў,
Не хачу я шырокіх
тых пляцаў,
Не хачу непрацоўных
паноў!
Не хачу я прыгожых
пахвал,
Не хачу я любові—
маны,
Не хачу іронічных
навал,
Не хачу неналежнай
цаны!
Не хачу я і сэрцаў
ныцьця,
Не хачу я людзкога
зьнішчэньня,
А хачу я свабоднага
жыцьця,
І хачу ўсіх працоўных
мас сплычэньня!!!

Прачытаў я, а Алесь і кажа:
— Ты-ж занясі і рэдактару ўласнаручна перадай—хай друкуюць.

Не, думаю, возьму, але рэдактару не аддам, гэта-ж запасуе мяне Ваўчок у сэнсе рыфмарства.

А вы пэўна дагадаліся, аб чым я хачу сказаць. Дагадаліся, што на такія вершы няварта часу траціць, бо ўсё роўна нічога з іх ня выйдзе.

Бывайце здаровенькі!

Ваш **ВОЖЫК.**

## ЖЫЦЬЦЁ ЗАМЕЖНЫХ ПРОЛЕТАРСКІХ ДЗЯЦЕЙ

*(Працяг)*

Прымалі ўдзел піонэры і ў політычных кампаніях, уцягваючы ў іх масу неорганізаваных дзяцей. Дзеці прымалі актыўны ўдзел у падрыхтоўцы да перавыбараў у парлямант, у правядзеньні Парыскай Комуны, тыдню памяці Леніна, Лібкнэхта, Люксэмбург і 11-годзьдзя Кастрычнікавай рэволюцыі. У час 1-га мая дзіцячыя атрады ўсёй краіны прымалі ўдзел у дэмонстрацыях дарослых рабочых са сваімі ўласнымі сьцягамі.

Прымалі ўдзел дзеці і ў экономічнай барацьбе. У Рованіеру піонэрскі атрад, каб дапамагчы бастуючым мясцовай маргарынавай фабрыкі, зьбіраў і прадаваў кветкі.

У Або дзеці організавалі швэйны гурток, каб дапамагчы дзецям мэталістых, якія знаходзяцца ў турмах. Організаваліся таксама гурткі і ў іншых мясцох.

Значна палепшылася ў 1928 г. піонэрская часопісь „Пуналіпу" („Чырвоны Сьцяг"). Яна стала сапраўдным голасам рабочага дзіцяці. Дзякуючы гэтаму палепшаньню, тыраж яе вырас да 1000 экзэмпляраў.

Ня трэба забываць, што фінляндзкім піонэрам вельмі цяжка працаваць. 2 сакратары саюзу былі арыштаваны, а ў шмат якіх мясцох арыштоўваюць і паваdыроў. Піонэраў усяляк прыцiскаюць у школах.

Фінляндзкі саюз працуе ня гледзячы на гэта! Шлем яму вітаньне!



# Хітрая выдумка

*(Жартоўная гісторыя з жыцьця замежных піонэраў).*

*Малюнкі з часопісі фінляндзкіх пролетарскіх дзяцей „Пуналіпу".*

**Павадыр атраду Ганс і яго памоцнік Гэнрых доўга думалі над тым, дзе дастаць грошы на патрэбы атраду. Прасіць у буржуяў—бескарысна: не дадуць. Рабочыя — іх бацькі—таксама шмат чым не памогуць. А грошы, хоць памры, дастань...**



















**Была зіма. Хлопцы гулялі на дарозе ля лесу. Раптам бачаць яны—ідзе чалавек, багаты, буржуй, відаць.**

**— Эй, Гэнрых,—кажа Ганс,—я прыдумаў адну рэч.**

**— А што?**

**— Падсадзі мяне на гэта дрэва,—ён паказаў пальцам на высокую хвойку, што стаяла над самай дарогай.**

**І хлопцы—раз, раз—ды гатова. Ганс ужо сядзеў на першай галіне, на якой ледзь вісела гара сьнегу. Гэнрых бордзенька шмыгануў у лес.**

**Буржуй, як ні ў чым ня бывала, ідзе сабе ды мармыча: грошы лічыць колькі ўтаргавала сёньня яго фабрыка.**

**Параўнаўся буржуй з дрэвам. І раптам—цэлая гара сьнегу звалілася яму на галаву. Брыкнуў буржуй на зямлю, толькі нагамі задрыгаў і крыкнуць не пасьпеў. Шавеліцца ў сьнягу, а вылезьці ня можа.**

**Падбеглі хлопцы, раскапалі трохі сьнег, каб буржуй дыхаць мог і кажуць:**

**— Колькі за работу—мы цябе ўраз вывалачам: мы хлопцы здаравенныя.**

**— А, галубчыкі, енчыць буржуй,—дастаньце— 10 капеек дам.**

**— Ну, ці варта рукі ў сьнег саджаць ды аб тваё буржуйскае насеньне апэцкваць!—100 рублёў гані—гаварыць будзем.**

**Крэкча буржуй, але крута, відаць, прыперла. Згаджаецца.**

**Хлопцы адкапалі буржуя, атрымалі сотню рублёў і вясёлыя паімчаліся ў атрад. А на заўтра ў атрадзе зьявіўся барабан, у піонэраў—гальштукі.**

ЦАНА 12 кап.




**Гузік, які лятае.**

Я бяру нітку, прывязваю да яе звычайны жалезны гузік і запальваю нітку. Агонь бяжыць па нітцы, нітка згарае, а гузік усё-ж астаецца вісець у паветры

У чым тут сакрэт?

Справа ў тым, што нітка ў мяне была ня простая. Паспрабуйце ўзяць звычайную нітку—нічога ў вас з гэтага выйдзе. Трэба нітку спачатку добра прамачыць у солі: палажыць у вельмі салёную ваду, высушыць і зноў палажыць, і так некалькі разоў.

Такая прасоленая нітка ўся не згарае—соль і попел астаюцца. На гэтых рэштках ніткі і вісіць гузік.

**Адсечаная галава (фокус).**

Цікавы абман зроку здаралася бачыць мне,—сказаў бацька сыну--даўно ў нашым горадзе. Прыехаў фокусьнік і абвясьціў, што будзе



паказваць за грошы адсечаную галаву, якая моргае вачыма, з усімі гаворыць, нават курыць... Я зацікавіўся і пашоў паглядзець на такое дзіва. Заходжу ў тэатр. Бачу стаіць пасярод сцэны столік на ім талерка, а на талерцы сапраўды чалавечая галава. Жывая галава: вачыма моргае, глядзіць на публіку, гаворыць. Гляджу пад столік—пуста, няма нічога. Вось цуда!

— Як-жа так?—зьдзівіўся сын.— Гэта-ж ня можа быць.

— Вось у гэтым і справа, што тут нічога такога й ня было, а быў абман зроку.

Пад сталом, як гэта выявілася, сядзеў жывы чалавек, які прасунуў галаву праз дзірку ў верхняй дошцы стала. А каб ня відаць было тулава чалавека, паміж ножкамі стала неўзаметку пастаўлены былі люстэркі: у люстэрках відаць быў аўбітак падлогі і здавалася, з боку гледзячы, што пад сталом пуста. Столік быў агароджаны каб блізка ніхто не падыходзіў.

— Як-жа ты даведаўся пра гэта?

— Вельмі проста: я скамячыў кавалачак газэты і кінуў яе пад столік. Газэтны камяк адскочыў ад шкла і лёг поруч на падлогу, а пад столікам зьявіўся тады другі камяк газэты, такі-ж самы—яго адбітак. Тады для ўсіх стала ясна, што столік адгароджаны люстэркамі і што пад ім, значыцца, зусім ня пуста.

**Прымёрзла конаўка.**

Вазьмеце звычайную бляшаную конаўку, пастаўце на кавалак дошкі ці на табурэтку і пад яе дно падлейце крыху вады. У конаўку насыпце сьнегу і мяшайце яго лыжкай, дабаўляючы сьнегу па меры таго, як ён будзе раставаць.

Праз некаторы час конаўка прымерзьне да дрэва так моцна, што яе цяжка будзе адарваць.

Дзіўна, што ў цёплай хаце, дзе сьнег растае, прымерзла конаўка.

Тлумачыцца гэта тым, што мы ў сьнег няпрыкметна для гледачоў падмяшалі солі. (Солі на конаўку патрабуецца 5—6 лыжак).

Соль прымушае вельмі хутка раставаць сьнег, які пры гэтым забірае з акаляючага асяродзьдзя вялікую колькасьць цяплыні: налітая на дошку вада моцна астывае і пераходзіць у лёд.

**Чаму крычыць дзяўчынка?**

Мастак тушшу зрабіў малюнак. На малюнку паказана дзяўчынка, якая знаходзіцца ў бядзе і крычыць аб дапамозе. Але малюнак ня скончаны. Мастак забыўся дамаляваць яшчэ нешта.

Калі ён дадасьць да малюнку тое, чаго не хапае, адразу будзе ясна, чаму крычыць дзяўчынка і што за бяда з ёй здарылася.

Што яшчэ павінен намаляваць мастак.



**Загадка.**

Ні пчала, ні авадзень, а гудзе. Нярухомыя крылі, а пралятаюць за гадзіну дзесяткі міляў. Без сядла, ды бяз вобруці йдзе, і вязе на сабе ён людзей. Бяз ніякага страху і гора пралятае і рэкі і мора.

**Устань са стула.**

Пасадзеце каго-небудзь з ахвотнікаў на стул так, каб ён трымаў тулава проста, і ногі таксама, пад простым кутом. Прапануйце яму ўстаць ненагінаючы тулава і не падгінаючы пад сябе ног, а проста ўстаць, як сядзіць.

Ніхто гэтага ня зробіць. Растлумачце, чаму так ня можна ўстаць.



Рэдколегія: Баліцкі А., Брыгневіч Г., Пякарчык А., Сьцяпанаў, Якімовіч А.

Адказны рэдактар А. Пякарчык.

Друкарня „БДВ“. У ліку 2400 экз. Заказ № 2030. Галоўлітбел № 1124.